ЯН ПЯТРОЎСКІ

# СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА



Metropolitan Museum of Art, N.Y.

Іктынос і Кальлікратэс.
Партэнон. Акрополіс у Атэнах.
5-ае стагодзьдзе п. н. э.



1979

JOHN PIATROUSKI

# GREEK ANCIENT CLASSICS

In Byelorussian



Published by Byelorussian Charitable Educational Fund, Inc.
Gainesville, Florida, USA.

ЯН ПЯТРОУСКІ

# СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА

(у межах нашае супольнасьці)



Гэйнсвільл, Флярыда, ЗША.
1979

Дасьледчы розум заўсёды будзе зьвяртацца да клясыкаў, і ўсё роўна на якой мове яны былі-б напісаны і як шмат старажытнымі яны маглі-б быць. Бо, у грунце рэчы, што гэта такое клясыкі, як не запісы найболей шляхэтных чалавечых думак? Гэта адзіныя аракулы, якія захаваліся да нашых дзён, і ў іх знаходзяцца адказы на найболей сучасныя пытаньні. Адмаўляцца ад іх — гэта тое самае, што адмаўляцца ад пазнаньня натуры з тае прычыны, што яна старажытная.

Паводля Торо

## СТАРАЖЫТНАЯ ГРЭЦКАЯ КЛЯСЫКА

### (у межах нашае супольнасьці) *)

На ўступе хацеў-бы я адзначыць, што закрананьне сягоньня ў межах нашае супольнасьці тэмы адносна грэцкае старажытнае клясыкі з прычыны яе важнасьці і аграмаднасьці, гэтак у сваім зьмесьце, як і з пункту гледжаньня гістарычнага прамежжа, ёсьць справаю асаблівых труднасьцяў, якія выплываюць з рэзультату нашае скамплікаванае мінуўшчыны.

Слова "клясычны" і паходныя адсюль — "клясыка", "клясыцызм", выводзяцца з лацінскага тэрміну — classicus, што, у перакладзе на беларускую мову, магло-б гучэць, як наўзорны, прыкладны.

Калі мы гаворым пра клясыку, мы гаворым пра творы літаратуры і мастацтва, якія цешацца ў сьвеце агульным узнаньнем, і на працягу стагодзьдзяў і тысячагодзьдзяў перахоўваюць значэньне нормы і ўзору; а ў гісторыі мастацтва — эпоха найвышэйшага разьвіцьця антычнага мастацтва, зьвязаная з разьвіцьцём культуры старажытных грэцкіх полісаў або местаў-дзяржаваў, і ў вапрычонасьці — Атэнаў. [1])

Кажны раз, калі мы будзем гаварыць пра клясыку, мы будзем мець на ўвазе антычную грэцкую культурную спадчыну.

Можна гэта зылюстраваць наступна: Уявем сабе, што перад намі сядзіць сто чалавек. Кажны з гэтае сотні атрымаў чысты і бязь ніякіх лінеяк аркуш паперы з заданьнем: напісаць пяром пад дыктандо вось гэтае самае, пра што мы цяперака разважаем, але гэтак акуратна і гэтак прыгожа, як толькі гэта ёсьць магчымым для чалавека. Пасьля заканчэньня пісаньня і абазначэньня аркуша сваім прозьвішчам, усё будзе сабрана ў вадну цэласьць. Цяперака, прымем, што мы тут сабраныя, тво-

---

*) Рэфэрат, прачытаны аўтарам у нядзелю, дня 19 жніўня 1979 году ў Грамадзкім Цэнтры Полацку (ЗША) перад адумысна запрошанаю аўдыторыяю.

[1]) Беларуская Сав. Энцыкляпэдыя, т. 6.

рым сабою свайго роду камісыю, якая займаецца справаю пашырэньня сярод нас прыгожага пісаньня. Нашым абавязкам ёсьць перагледзець напісаныя аркушы і знайсьці, каторы зь іх напісаны найпрыгажэй. І тое пісаньне, якое мы, як камісыя, знойдзем, як найпрыгажэйшае, назавем клясычным, наўзорным. Практычна гэта значыць, што з гэтае пары мы будзем старацца гэтак прыгожа пісаць, як бачым мы гэта на аркушы, які толькі што ўзналі мы, як клясычны, наўзорны.

Сусьветная гісторыя культуры — гэта сотні і тысячы напісаных "аркушоў" многімі народамі, пачынаючы ад няпамятных дзён, аж да нашае пары. І з усіх твораў гістарычнага літаратурнага мастацтва "камісыя", якая складаецца з прадстаўнікоў усіх нацыянальнасьцяў і ўсіх пакаленьняў прызнала, што найболей прыгожаю, найболей мэтанакіраванаю, наўзорнаю і найболей ідэальнаю ў галіне навукаў зьяўляецца старажытная клясычная грэцкая літаратура, і ў вапрычонасьці тая, аўтарам якое ёсьць Плятон, сын Арыстона.

Справа ў гэтым напрамку гэтак далёка зайшла, што прафэсар грэцкае клясыкі на Оксфордскім унівэрсытэце, Др Гільбэрт Муррэй, прэзэнтуючы нам свой пагляд на старажытна-грэцкую спадчыну, інакш не выражаецца, як толькі "**Вартасьць Грэцыі для Будучыні Сьвету".** Сказ пабудаваны гэтак ясна, што не вымагае ніякіх камэнтараў.

Згэтуль, паняцьце клясыкі будзе вязацца з выражэньнем нечага найлепшага ў літаратуры, у мастацтве, пошукаў ідэяў, ідэалаў для чалавека, вартасьцяў духовых і нязьменных сьвятасьцяў для людзкога роду, бо, выражаючыся коратка:

У грэцкай клясыцы знаходзім значэньне і вартасьць, як грэкі казалі, эпістэмолёґіі або навукі — сыстэмы ведаў пра натуру, пра грамадзкую супольнасьць і працэсы думаньня, якія ўзьнікаюць, спраўджаюцца, стала паддаюцца ўдакладненьню, клясыфікуюцца і сыстэматызуюцца на аснове практыкі і выкарыстоўваюцца ў творчым працэсе людзкае супольнасьці — дзе родзіцца паняцьце клясыцызму. [2]).

У грэцкай клясыцы спатыкаем дыялёг на тэму здольнасьці найлепшага тасаваньня ведаў з мэтаю агарненьня

---

[2]) Там-жа.

і выкарыстаньня іх у справах найвышэйшага парадку; тут спатыкаем гутарку пра разумнае, і з падобнымі мэтамі, выкарыстаньне нашае праніклівасьці, суду нашага розуму, кемнасьці і іншых падобных сілаў, што́ ўсё разам грэкі называлі разуменьнем, мудрасьцю.

Клясыка — гэта арэтэ, гэта ўнутраная дабрыня чалавека, якая выток свой бярэ з шляхэтнасьці ягонае душы, гэта вялікадушша; гэта мужнасьць, зьвязаная са спатканьнем вялікшых і меншых штодзенных абавязкаў; арэтэ — гэта маральная прыгожасьць, гэта годнасьць чалавека, гэта ягонае духовае ўзвышша, коратка — гэта прынцып духовы, які чыніць чалавека Чалавекам.

Арэтэ — гэта наважанасьць і стойкасьць у прынцыповых справах жыцьця, часамі прадпрынятая пастанова спаткаць найвышэйшую адказнасьць.

Грэцкая клясыка, як нішто іншае, дае нам наўзор паняцьця свабоды; тае самае свабоды, якая стварае стан вольны ад якое-небудзь кантролі з боку іншых чыньнікаў, якая зьяўляецца найкаштаўнейшаю рэчаю для кажнага жывога існаваньня на гэтым сьвеце. Свабода зьяўляецца асноваю для кажнага прагрэсу дабра. Там, дзе нямашака свабоды, няма неабходнае атмасфэры для навуковае творчасьці, бо свабода і навука — гэта непадзельная цэласьць. Гэта вельмі характэрным стаецца для старажытных грэкаў, што ўжо ў тыя сівыя часы, яны ведалі "нашае" выражэньне — "свабода слова". Яны гэтаксама ведалі палітычную свабоду, якую практыкавалі дарогаю свабоднага галасаваньня, таго самага галасаваньня, якое, пад уплывам грэцкае клясыкі, практыкуе сягоньня адроджаны сьвет.

Калі мы ўжо гаворым пра навуку і арэтэ, тады трэба прыгледзецца, у якім яны знаходзяцца ўзаемадачыненьні. Перад усім, навука чалавека і ягоная маральнасьць маюць, паводля Плятона, існці паралельна, калі гаспадарства мае астацца ў сваіх асновах. Уявем сабе здольнага інжынера. Ён нагэтулькі кемны ў сваім мастацтве, што, седзячы ў сваім выгадным кабінэце і, карыстаючыся ведамымі яму інструмэнтамі, ён на адлегласьць можа выпісаць сабе чэк на суму, скажам, пяці мільёнаў грошай, якія зусім не зьяўляюцца ягонаю ўласнасьцю і зрэалізаваць чэк у любым банку. Выпадкі, у якіх "вучоны" чалавек можа выкарыстаць свае веды на шкоду іншаму

чалавеку або супольнасьці, можна прыводзіць дзесяткамі і дзесяткамі.

Вазьмем іншы выпадак. Чалавек ловіць на возеры рыбу. Закінуў з лодкі вудачку і, узіраючыся на паплывок, чакае калі рыба будзе кляваць. У Флярыдзе, для прыкладу, пагода стаіць сонечная і цёплая; рыбак мае з сабою халоднае пітво. Добра было-б пацягнуць. І ён п'е. Выпіўшы да каплі, ён азіраецца; навакол, як вокам кінуць, нікога ня відаць. Ён можа парожную мэталёвую пушку апусьціць на дно возера. Але ягонае сумленьне асьвечанага чалавека прыводзіць яму на ўспамін усе просьбы, якія ён чуў праз радыё і бачыў на тэлевізыйным экране ці чытаў у агалошаньнях, якія просяць яго нічога ня кідаць у ваду, што не належыць да вады. Тут веда чалавека спатыкаецца зь ягонаю арэтэ, або мужнасьцю. Падобна справы маюцца з усімі тымі, каторыя працуюць грамадзка, і магчыма, перад усім!

Грэкі старажытныя ня былі першымі, якія вынайшлі канцэпт справядлівасьці. Але яны былі першымі, каторыя ўнялі яго ў межы разумнага тасаваньня ў жыцьці на шляху дыялёгу, уздымаючы справядлівасьць да ролі князя ў гаспадарсьцьве. Дíкэ або справядлівасьць, у грэцкім уняцьці — гэта мужнасьць, якая мае на ўвазе даць кажнаму чалавеку і кажнаму народу тое, штó яму належыцца; — гэта практычнае падпарадкаваньне прынцыпам чэснасьці і справядлівасьці ў узаемадачыненьнях зь людзьмі. Плятон, для прыкладу, у сваіх дыялёгах яшчэ і яшчэ раз гаворыць аб шчасьці чалавека ў межах справядлівасьці. — Гаворачы пра справядлівасьць, мы ня можам абыйсьці моўчкі паняцьця несправядлівасьці. З несправядлівасьці выплываюць нездаволеньне і непаразумленьні, пратэсты і бунты. Усе войны і рэвалюцыі, як рэгула, пачатак свой бяруць там, дзе пануе несправядлівасьць. Беларускі народ, як, магчыма, ніякі іншы, павінен асаблівую ўвагу зьвярнуць на паняцьці справядлівасьці, як і несправядлівасьці, разумеючы, што тут ляжыць выходны пункт нашых свабодаў.

Дасьледчыкі грэцкае клясыкі агорнуты зьдзіўленьнем, як, адносна малы народ, упаў на думку выкрыцьця, ацэны і важнасьці практычнага затасаваньня розуму. З гэтае пары розум узьняты на належны яму пэдастал.

Клясыка — гэта з новым у нас выражэньнем слова

“філязофія” — зьявішча, якое адных уводзіць у захопленьне, у іншых выклікавае грымасу на твары. Філязофія дэфінюецца, як навука ўнівэрсальная, якая кіруецца да мэты выясьненьня ўсіх фэнамэнальных зьявішчаў у сусьвеце і ўльтыматыўных прычынаў; яна можа быць уважанаю за навуку зьявішчаў у натуры, якія паясьняе і вырашае з распадзелам на прычыны і матывы, сілы і правы. [3]). Яна займаецца зь ня меншым зацікаўленьнем адным з найбольшых, і бадай-што найважнейшым фактарам, і вельмі капрысным у сваей натуры гэтаксама, як і вельмі важным для нашага жыцьця — самым чалавекам. [4]).

Філязафічныя творы старажытных грэкаў — гэта нешта такое, штó перакладваецца на ўсе культурныя мовы сьвету, а мо’, барждж эй, з прычыны гэтага, яны стаюцца болей культурнымі. Пераклады, для прыкладу, дыялёгаў Плятона, нясуць з сабою слоўнік новых філязафічных тэрмінаў, выражэньняў, стылю і канцэпцыяў дагэтуль нячуваных у нас, новыя дэфініцыі. Бо, і ў грунце рэчы, бяз гэтых канцэпцыяў, бяз гэтых паняцьцяў і дэфініцыяў, без разумных нормаў і прынцыпаў, гэтак старажытны сьвет, як і сучасны, ня могуць абыйсьціся на шляху людзкасьці да новых гарызонтаў. Нездарма, у сваей сьведамасьці, грэцкі навуковец, стратэг, дзяржаўны муж, як і філёзаф — Пэрыклес, у сваей прамове, прысьвечанай сваім атэнскім суродзічам, паўшым на полі хвалы ў першым годзе Пэлёпоннэскае вайны, сярод іншага, казаў: “З усіх ведамых нам местаў, толькі Атэны прыходзяць да часу сваіх выпрабаваньняў у велічы, якая перавышае ўсё, што было ведамым пра гэтае места. Прышлыя вякі будуць захопліваціа намі, гэтак, як сучаснае стагодзьдзе ня можа дастаткова надзівіцца”.

Клясыка — гэта палітычная філязофія, якая мае на ўвазе шчасьце чалавека ў межах свае ўласнае народнае апрычонасьці. Народ, гаспадарства, нацыя — гэта перад усім чалавек. Якасьць гэтага чалавека становіць вартасьць гаспадарства. Але, каб гаспадарства было разумным і шчасьлівым для сваіх грамадзян, паводля Плятона, сам грамадзянін павінен быць на адпаведным культурным

---

[3]) Вэбстэр.

[4]) Паводля Вэбстара.

узроўні, і перакананым адносна магчымасьцяў гэтакага гаспадарства. Аб гэтым найболей адважна і зь вялікаю сілаю перакананьня Плятон у пятай кнізе свайго монумэнтальнага твору п. т. "Політэя", сярод іншых рэчаў, што адносяцца да належна ўладжанага гаспадарства і ў ім шчасьлівага жыцьця грамадзян, кажа:

"Пакуль філёзафы ня стануцца каралямі, або каралі і князі на гэтым сьвеце не займеюць духа і моцы філязофіі, і пакуль палітычная велічнасьць і інтэлектуальная мудрасьць ня злучацца ў вадно, і пакуль людзі паспалітыя, якія цяперака імкнуцца да аднаго ці другога пасобку, ня будуць змушанымі адыйсьці набок, — да гэтае пары гаспадарствы ніколі ня выратуюцца ад сваіх злыбедаў — ані, як я думаю, людзкі род..." [5])

Клясыка прыносіць нам ідэю ўнівэрсалізму — усеагульнасьці, канцэпцыю роду людзкага, як аднае сям'і. Вэрнэр Ёгэр проста падае да ведама: "У Заходнім сьвеце ўнівэрсалізм не пачынаецца хрысьціянамі ані ізраэльскімі прарокамі, ён пачынаецца грэцкімі філёзафамі". [6])

Аднойчы запытаны, Сакратас, адказаў, што ён зьяўляецца атэнцам і грамадзянінам усяго сьвету. У ягоным адказе крыецца зьмест, які выперадзіў людзкасьць што найменей на дзьве з паловаю тысячы гадоў.

У беларускай супольнасьці, што знаходзіцца дома, як і па-за домам, назіраем вострую тэндэнцыю ў напрамку апрычонае цэласьці. Тэндэнцыя гэтая, між іншым, сталася прычынаю хвармацыі беларускае эміграцыі, расьцярушанае па сьвеце, як свайго роду чыньніка, што падкрэсьлівае апрычонасьць беларускае дзяржаўнасьці і яе свабодаў.

З гэтае прычыны, як гутаркі выяўляюць, выказваньні пра ўнівэрсалізм, не зьяўляюцца папулярнымі сярод некаторых з нас. Непапулярнасьць гэтая ўздымаецца ня гэтулькі з прычыны нашае любові да свае бацькаўшчыны, як барджджэй, з прычыны нясьведамасьці што да характару і мэтаў гэтае ідэі, як і неспасьцярожнасьці наяўнасьці эвалюцыі сярод народаў у гэтым кірунку.

Зьдзіўляючым ёсьць сярод грэцкіх думаньнікаў тое, што іхны пагляд адносна ўнівэрсалізму ніколі ня згубіў

---

[5]) Політэя, V, 473d.

[6]) Пармэнідэс, б. 17; (бел. пераклад).

са свае важнасьці. Пацьвярджае гэта сягоньня пера-жываны намі час. Панэўрапэізм, як кліч, кінуты некаторымі асьвечанымі людзьмі адносна нядаўна, (для прыкладу, Віктар Гюґо), сягоньня стаецца што-раз большаю рэчаіснасьцю. Як ведама, у першай палове чырвеня 1979 году, грамадзяне Эўропы выказалі сваю волю пакліканьня да жыцьця панэўрапэйскага парлямэнту, як далейшы этап, пасьля стварэньня Агульнага Эўрапэйскага Рынку, прачышчаючы гэтым шлях да канцэпцыі Злучаных Штатаў Эўропы.

З прычыны далейшага прагрэсу свае духовае сьпеласьці ў дзялянцы культурнай, рэлігійнай, палітычна-аканамічнай, як і перад усім — тэхналягічнай, сьвет наш фізычна пачынае курчыцца. Гэаграфічная адлегласьць, на пакрыцьцё якое калісьці патрэбнымі былі месяцы часу, сягоньня, дзякуючы прагрэсу ў авіяцыі, адбываецца, даслоўна, на працягу ня поўных трох-чатырох гадзінаў. Сродкі камунікацыі і зносінаў, дзкуючы адпаведна, дзеля гэтых мэтаў, пабудаваным саталітам, умясцоўленым далёка ў прасторы "над" зямлёю, стаюцца проста казачнымі. У галіне мовазнаўства людзі гэтак далёка пайшлі, што скамунікаваньне між імі не прадстаўляе сягоньня большых труднасьцяў. Тут ляжаць прычыны (хоць і ня ўсе вылічаныя намі) узьнікаьня аграмадных палітычна-эканамічных камплексаў, як Злучаныя Штаты Амэрыкі, Савецкі Саюз, Злучаныя Штаты Эўропы, каб ня вылічваць усіх іх. Але гэты прагрэс у кірунку збліжэньня між народамі не зьяўляецца апошнім. Апошняю мэтаю, любім мы гэта ці не, зьяўляецца ўнівэрсалізм.

Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека напісана ў духу ўнівэрсалізму. Шлях да супольнага жыцьця людзей пад найвышэйшым кіраўніцтвам Правоў да іхнага шчасьця яшчэ далёкі. І, калі ён калі-небудзь і ўрэчаісьніцца, урэчаісьніцца толькі шляхам эвалюцыі праз праўдзівую адукацыю, пра якую гэтак часта гаворыць Сакратас з Плятонам.

У аспэкце вышэйсказанага, выступае вельмі характэрнае зьявішча, на якое зацікаўленыя народы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Я не памятаю, ці даводзілася мне калі-небудзь сустрэць у амэрыканскай прэсе, але з тэлебачаньня я чуў гэтае пытаньне. Пытаньне выток свой брала з факту, што ў Агульным Зграмаджэньні Аргані-

зацыі Аб’еднаных Нацыяў, кажная нацыя ў васобе свайго прадстаўніка мае адзін праўны голас. Большасьцю гэтакіх галасоў вырашаюцца амаль усе справы, якія падпадаюць пад кампэтэнцыю названае інстытуцыі. Само пытаньне ў тэлевізыйнай аўдыцыі гучэла: Ці адзін голас Злучаных Штатаў Амэрыкі і, скажам, адзін голас сувэрэннае дзяржавы Малавіі, што знаходзіцца на паўдзённым усходзе Афрыкі, — гэта два роўныя галасы? Праўда, і гэта характэрна, адказ на пастаўленае пытаньне ня быў у тэлевізыі выразна пададзены. Але само пытаньне было пастаўлена пад развагу думаючым людзям. Фармальна — гэта два роўныя галасы, а фактычна..? Да пытаньня роўнасьці галасоў, у дадзеным выпадку, існуюць два розныя падыходы: Іншы падыход можа быць грамадзян ЗША, і іншы — грамадзян Малавіі.

З гэтага вынікае, што, каб адказаць на падобнага роду пытаньне, трэба знайсьці нейкі супольны назоўнік для ўсіх роўнапраўных сяброў ААН. І мне здаецца, што гэтакі назоўнік ляжыць на плошчы культурнай, цывілізацыйнай. Добраю ілюстрацыяю для нашага пытаньня можа быць, калі я толькі сягоньня добра памятаю, адно з кароткіх апавяданьняў Льва Талстога. У апавяданьні гаворыцца, што людзі жывуць супольным жыцьцём: супольна працуюць і супольна спажываюць ежу. Пры ўваходзе ў сталоўку, кажны сябра супольнасьці паддаецца скрынінгу. Сам скрынінг вельмі просты: уваходзячыя ў сталоўку мусяць паказаць свае рукі. Калі на далоні відны мазалі, таго пушчаюць за супольны стол, а таго, хто ня можа выказацца мазалямі, ня ўпушчаюць. Выходзіць гэтак, як калісьці ап. Паўла казаў: “Калі хто ня хоча працаваць, той няхай і ня есьць”. [7])

Што я хачу гэтым сказаць? Я хачу сказаць, што роўнасьць сябры ў сям’і мерыцца роўнасьцю сяброўскага ўкладу. Мернікам культуры зьяўляецца заходня-эўрапэйская культура. А гэта, зноў, лягічна вядзе нас да клясыкі, грэцкае клясыкі.

Калі-б дайшло да падобнага аб’яднаньня, — а яно можа здарыцца — тады аб’яднаньне гэткае можа выклікаць спадзеі ў вадных, як і расчараваньні ў іншых. Для адных народаў, болей заавансаваных у навуцы — па-

[7]) II Фэс., 3:10.

добнае зьявішча можа разглядацца, як плюс. Для народаў меней абазнаных з элемантарнымі вымаганьнямі культуры, падобныя тэндэнцыі могуць стацца іхнаю нацыянальнаю сьмерцяю. Падобнае зьявішча літоўскі народ раз ужо перажыў у сваей гісторыі.

Надзвычай важным і своеасаблівым праявам, як ілюстрацыя таго, аб чым мы гаворым, можа быць артыкул, зьмешчаны ў "Беларусе" (№ 263, сакавік, 1979) пад тытулам "Аляксандр Баршчэўскі ў Ангельшчыне".

Загадчык Катэдры беларускае філялёгіі пры Варшаўскім унівэрсытэце, др. Аляксандар Баршчэўскі адведаў Англію на пачатку гэтага году. У сувязку з гэтым, госьць беларускі з Польшчы меў нагоду спаткацца зь беларусамі Лёндану і ваколіцаў гэтага места. Паводля выказваньняў П. Н., аўтара артыкулу, усе удзельнікі сустрэчы "былі здаволеныя".

Я здагадваюся, што прычына здаволеньня ангельскіх беларусаў знаходзіцца ў факце, што першы раз у гісторыі беларускага нацыянальнага руху нашага стагодзьдзя яны мелі нагоду пачуць праўду, якое яны ніколі ня чулі перад гэтым. Перш, яны даведаліся, што на працягу 12 гадоў (1944?-56) у межах сучаснае дэмакратычнае Польшчы беларусы ня мелі ніякага арганізаванага свайго нацыянальнага жыцьця. Была гэта, праўдападобна, пара́ ашаламленьня і тэрору, дазнанага з прычыны г. зв. Другое сусьветнае вайны, вайны без прыцэдэнсу ў гісторыі чалавека на Зямлі.

І толькі, паводля артыкулу, з 1956 году, у Польшчы, у якой "цяпер існуе поўная свабода", пачынае дзейнічаць Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства; пачынае выходзіць тыднёвая беларуская газэта "Ніва"; наладжваюцца і вядуцца штодзённыя 15-ціхвілінныя (сік!) радыёвыя перадачы ў беларускай мове; паўстае і "беларускае школьніцтва, каля 200 пачатковых школаў". Аднак ад гэтага часу, г. зн. у межах 23 гадоў, лік школаў, чытаем у артыкуле, "зьменшыўся да 100, і то яны перайшлі на польскую мову, захоўваючы беларускую мову толькі як прадмет. Пры гэтым, даведваемся з артыкулу, уся гэтая беларуская дзейнасьць пакрываецца ці аплочваецца дзяржаваю.

Тут выразна выступае на першае месца прынцып, які назіраем усюды (з малымі выняткамі), дзе жывуць бе-

ларусы. Прынцып гэты абмеркаваны “навукоўцамі”, выпрабаваны на практыцы, прадуманы і прастудыяваны платнымі псыхалёгамі. Ён дыямэтральна зьначвае аддаўна прынятыя ў сьвеце этыкі дэфініцыі, паводля амаральнага шаблёну: чорнае мае азначаць, або быць разуметым, як белае ў сваей сутнасьці. Паняволеньне цяперака будзе называцца свабодаю, сум душы мае быць адлюстроўваны ўсьмехам на твары; голад павінен называцца заможнасьцю. Страшны ён, і цяперака мае заступіць у палітыцы калісьці сьвяты прынцып — несупрацiўленьне злому. З гэтага выплывае, што “злому” трэба даць поўную свабоду, так, каб яно ня мела нагоды ламацца ў дзьверы, бо дзьверы расчыненыя. Трэба маліцца да Гісторыі-бога, каб паўміралі ўсе тыя, што памятаюць дні нашага маральна-псыхалягічнага заняпаду.

Кажная **акцыя** прасьледу ў перадваеннай Польшчы выклікала **рэакцыю** беларускага актыву і беларускага насельніцтва. Сягоньня гэтакае акцыі няма — затым, няма і рэакцыі. Калісьці можна было быць аканамічна незалежным. Сягоньня гэтакае незалежнасьці няма, а калі дзе яшчэ і існуе, дык заўтра яе, праўдападобна, ня будзе. Згэтуль ня трудна вылічыць, на чыім баку час. Калісьці можна было знайсьці адносна добрага ці дрэннага працадаўцу ў тым або іншым месьце. Сягоньня працадаўца толькі адзін. Ягонае імя — дзяржава. Дзяржава ведае адну сваю дзяржаўную мову, і ўжывае яе ўсюды там, дзе людзі працуюць і зарабляюць на хлеб для сябе і сваіх сем'яў. Усякая іншая мова, паводля апініі працадаўцы, уключна і беларуская, з малымі выняткамі, ня мае ніякага практычнага затасаваньня.

Дзяржава за ўсё плаціць. І ўсе працуючыя ад дзяржавы атрымліваюць грошы. Кажны, хто атрымлівае ад каго-небудзь грошы, зьяўляецца маральна забавязаны перад грошадаўцам. І чым бяднейшае эканамічнае заплечча мае чалавек, тым лягчэй дзяржаве зь ім змагацца.

Кульмінацыйным пунктам асьведчаньня Др. Баршчэўскага, паводля артыкулу, зьяўляюцца ягоныя словы, паводля якіх, “найбольшымі ворагамі Беларусаў ёсьць самі Беларусы”. І як ні дзіўным асьведчаньне можа каму-небудзь здавацца, яно мае ў сабе шмат праўды і яшчэ болей адвагі. За тую пахілую лінію заняпаду, хоць-бы нават у межах школьніцтва, адказнымі, паводля П. Н.,

зьяўляюцца беларусы Беласточчыны!

Гэтым узьнята перад намі пытаньне, якое даўно ўжо павінна было быць пададзена ўвазе беларускае грамадскасьці.

Адно з галоўных пытаньняў, якое абмінае беларуская гісторыяграфія, гэта аснаўное пытаньне прычынаў упадку Вялікага Княства Літоўскага. Праўдзівы ягоны адказ можа знайсьці сваё месца выключна ў межах этыкі гісторыяграфаў. Усякі іншы будзе толькі зьвінячаю медзьдзю з сымптомамі, як практыка паказвае, шкоды для беларускае справы.

У павязаньні з нашаю тэмаю, у беластоцкай "Ніве" (№ 24-1216) знаходзім артыкул п. т. "Чаму моладзь уцякае зь вёскі?" Артыкул гэты просты і ясны, затым і зразумелы, які зьяўляецца вартым, каб узяць яго пад мікраскоп і добра паўзірацца на тую культурную матывацыю, якою наагул чалавек кіруецца, хай сабе жыве ён у вёсцы ці ў месьце.

Закранутая тэма вечная. Ужо ў старажытных часох тэму гэтую парушалі, паказваючы на тое, што места, як гэткае, заўсёды было аб'ектам прыцяжэньня для тых, што жылі на вёсках. Бо места зьяўляецца цэнтрам культуры, навукі і аглады чалавека, затым яно стаецца магнітам прыцяжэньня ня гэтулькі для вясковага чалавека, колькі для думаючага вясковага чалавека. Калі нашае разважаньне выцякае з прычынаў чыста нацыянальных патрэбаў, тады павінна быць зьвернута ўвага на факт, што і ў месьце, калі людзі з культурнымі амбіцыямі не знаходзяць належнага задавальненьня сваіх асьветніцкіх патрэбаў, яны ўцякаюць у тыя культурныя асяродзьдзі, якія адказваюць іхным зацікаўленьням. Працэс гэты ня толькі наяўным ёсьць у Польшчы, назіраем яго бадайшто ўва ўсіх беларускіх скупішчах на сьвеце. Частая адсутнасьць зразуменьня гэтых патрэбаў сярод нашага кіраўніцтва, бяз лініі разьмежаваньня паміж прыватным і грамадзкім, у шатлікіх выпадках асьляпленьне эгаізмам, зайздрасьцю і грашыма, вядзе да формулы, што "найбольшымі ворагамі беларусаў зьяўляюцца самыя беларусы". Можа гэта гучэць парадаксальна, але тым ня меней ёсьць нейкая доля праўды ў гэтым.

*

У павязаньні з нашаю тэмаю немагчыма абмінуць гістарычна-культурнага зьявішча ў Заходняй Эўропе, ведамага пад імем Рэнэсансу.

Рэнэсанс, як культурнае зьявішча на Заходзе, можа быць з добрым паводжаньнем прадстаўлена беларускаму слухачу гэтак ведамаю нам алегорыяю:

Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
Мы знаем, што трэба рабіць,
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэба навуку здабыць.

Тут ляжыць тая самая ідэя, з тою розьніцаю, што ў нас імкненьне "рэнэсансу" на пачатку нашага стагодзьдзя, распасьціралася на адносна малы край паняволенага народу, тады, як Заходні сьвет, гэтаксама змучаны тухлаю атмасфэраю сярэднявечча, на большую скалю шукаў выхаду на "вольны свой простор".

На паняцьце рэнэсансу складаецца шмат дэфініцыяў і камэнтараў, якія варта прыпомніць у скароце.

Слова Рэнэсанс выводзіцца з пазьнейшага пэрыяду лацінскае мовы ад тэрміну renascentia — што значыць дослоўна — нованараджэньне, ажыўленьне якое-небудзь рэчы, якая даўжэйшы час прабывала ў раскладзе або ў патушаным стане, — выражэньне якім абазначаецца прамежны рух у Эўропе з сярэднявечча да мадэрнага культурнага сьвету, і асабліва тарнуецца да часу адраджэньня навукі і мастацтва, пачынаючы з чатырнаццатага стагодзьдзя і зваротам да клясыкі старажытнае Грэцыі.

Коратка, рэнэсанс — гэта адраджэньне, духова-культурнае адраджэньне, якое знаходзіць сваё месца ў розных краінах і ў розным часе.

Агульна бяручы, рэнэсанс на Захадзе займае пэрыяд часу ад 1300 году да 1600. Сярод дасьледчыкаў гэтага зьявішча, як будзем бачыць, узьнікае розьніца паглядаў, што да часу і месца пачатку рэнэсансу. Розьніца гэтая выяўляецца, дзякуючы розьніцы ў паглядах тых, што пытаньнем рэнэсансу займаюцца. Тэндэнцыі, сьветапагляды, амбіцыі людзей і нацыянальная гордасьць з прэтэнсыямі самавывышэньня над іншымі народамі, нават у нашых яшчэ часах ствараюць разыходжаньні ў паглядах. Аднак, па-за справаю "калі" і "дзе", рэнэсанс сымбалізуе адраджэньне і зварот тварам да антыч-

нае грэцкае культуры, як і да рымскае культуры, паколькі апошняя займела сабе значную частку з духовае спадчыны вялікіх грэкаў.

Да рэнэсансу ня прыйшло адразу. Спатрэбіліся на гэта доўгія стагодзьдзі.

Як ведама, наш духовы сьвет, культурны і палітычны не зьяўляецца фактарам пэрманэнтным. Усё паддаецца праву зьменнасьці.

Грэцкая спадчына, якая налічвае каля 30.000 імёнаў, што вяжуцца з грэцкімі асягненьнямі ўва ўсіх дзялянках культурнае творчасьці, якая расьцьвіла ў пышную кветку для ўсіх народаў, дзякуючы розным гістарычным прычынам, сталася з часам занядбанаю, а сама Гэльляда згубіла сваю палітычную незалежнасьць.

Паводля сівога пераказу, — памінаючы наступствы Пэлёпоннэскае вайны, — ужо ў чацьвертым стагодзьдзі п. н. э., гісторыя нясе з сабою першыя сымптомы пагрозы для грэцкага сьвету. Прыблізна ў гэтым часе рымскія легіёны першы раз напатыкаюцца на нейкую вёску, жыхары якое гаварылі на незразумелай для іх мове. Вёска з грэцкага называлася Грайой. Ад назову гэтае вёскі, з часам, узьнікла слова, для прыкладу, у беларускай мове, г р э к і. Пазьней назоў гэты, **за межамі самое Грэцыі,** пашырыўся на ўсіх людзей грэцкае нацыянальнасьці. Паўстае пытаньне, як-жаж самыя грэкі называлі самых сябе? Грэкі сябе называлі і сягоньня называюць гэльленамі, прыметнік згэтуль — гэльленістычны, а краіну сваю называлі і называюць Гэльляда.

Пачынаючы з гэтага стагодзьдзя і па-праз наступнае трэйцяе стагодзьдзе п. н. э., рымляне прыйшлі ў поўны кантакт з грэцкаю культураю, якая ў ваграмаднай меры на лепшае зьначыла рымскае жыцьцё. Быў гэта час Рымскае Рэспублікі. Да свайго залатога веку, дзякуючы ўплывам гэльленістычнае культуры, Рым даходзіць у часох Рымскае Імпэрыі ў пэрыядзе панаваньня імпэратараў — Гадрыяна, Антонінуса Піюса і Марка Аўрэліюса.

У міжчасе на гістарычным гарызонце зьявілася адужанае хрысьціянства.

Флявіюс Валерыюс Аўрэліюс Констанцінус (285?-337), сын Констанцiюса І-шага і сьвятой Гэлены, стаўся першым хрысьціянскім імпэратарам, ведамым у гісторыі,

як Канстанцін I-шы або Канстанцін Вялікі (307-337). Свае асягненьні Канстанцін Вялікі заўдзячвае сваей адважнай новай палітыцы адносна хрысьціян. На дарозе трох эдыктаў, ім выданых, хрысьціяне адносна ў хуткім часе прайшлі тры фазы свайго статусу. Перш, яны былі праўна ўзнаныя і талераваныя; пазьней — роўнаўпраўненыя і, нарэшце, як рэлігія пануючая ў Імпэрыі.

Калі ідзе гутарка пра грэцкую клясыку, ня можна абмінуць аднаго новага і важнага гістарычнага мамэнту, які цесна вяжацца з адраджэньнем на Захадзе.

У тым часе, калі палітычна-хрысьціянскі сьвет цешыўся з прычыны заслужаных свабодаў, уваходзіў у сілу, тварыў на вечныя часы свае часамі дзіўныя пастановы і распачынаў бясконцыя дыспуты ў справах свае веры, — на гістарычным гарызонце нашае культуры выступае новы фактар.

Гэтым новым фактарам, як будзем бачыць далей, зьяўляецца іcьлям, або магамэтанізм.

“Калі вы гаворыце пра іcьлям, вы гаворыце пра нешта, што цесна вяжацца з культураю”, сказаў нядаўна мэр места Рыму ў сувязі з атрыманьнем дазволу на выбудаваньне ў гэтым месьце першага мэчэту, вышынёю ў 125 футаў.

Места называлася Мэкка. Улетку 622 году купец Магамэт, народжаны ў гэтым месьце, расказаў сваім хатнім, што ён меў відзежу Архангела Гаўрыіла і займеў унутранае пакліканьне быць пракам для свайго арабскага народу і апавяшчальнікам новае і праўдзівае веры ў адзінага Бога Алаха. Хатнія слухаючы пераняліся чутым і апавясьціліся, як ягоныя аднадумцы. У сувязі з гэтым, зараз-жа ў месьце паўстала сільная апазыцыя супраць Магамэта з пагрозаю для ягонага жыцьця. Дачуўшыся пра гэта, Магамэт уначы ўцякае ў невялікае, недалёка паложанае ад Мэккі места, Ятрыб, якое хутка пасьля гэтага будзе называцца Мэдынаю. У Мэдыне Магамэт здабывае новых для сябе прыхільнікаў лікам каля 40-ка чалавек. З гэтае пары сярод арабаў пачынаецца рэлігійны рух нацыянальнага характару з новым часалічэньнем. Бедныя бэдуіны, узгадованыя сярод скаціны на няпрыхільнай пяшчанай зямлі, рушылі з пустыні на падбой сьвету, нясучы з сабою запраўдную веру ў адзінага Бога і ягонага прарока Магамэта.

Усюды, куды яны прыходзілі, людзей пераконвалі пераважна словам і мячом, хоць гэтае апошняе Каран забараняе. Напатканыя людзі ня ведалі сваіх прапаведнікаў, гэтак, як і апошнія ня ведалі спатканых.

Др. Піліп Гіцьці, прафэсар сэміцкае літаратуры на Прынстонскім унівэрсытэце, у сваей выдатнай аднатомнай працы п. т. "Гісторыя арабаў ад найранейшых дзён да нашага часу", якая дачакалася нядаўна свайго 6-га выданьня, між іншым, кажа:

Дарогаю заваяваньняў Бабілёніі зь яе ўраджайным двух-рэччам, пэрскіх земляў і Эгіпту, арабы здабылі ня толькі аграмадныя гэаграфічныя прасторы, але найранейшыя цэнтры цывілізацыі сьвету. Гэткім чынам, сыны пустыні раптам пачуліся спадкаемцамі тых сівых і авеяных старажытнасьцю культураў зь іх доўгімі традыцыямі, сягаючымі гэтак далёка, як да грэцка - рымскае. У мастацтве і архітэктуры, філязофіі і мэдыцыне, у навуцы і літаратуры, у штуцы ўрадаваньня, — першабытныя арабы нічога не маглі даць зь сябе, за тое ўсё з гэтага маглі толькі вучыцца і пазнаваць. І што за ненажэрлівы апэтыт праявілі яны! Заўсёды з вострым змыслам цікавасьці і з утоенаю магчымасьцю, якая ніколі не праяўлялася перад гэтым. Музульманскія арабы ў супрацы і пры дапамозе імі падпарадкаваных сабе людзей, цяперака пачалі зьбіраць, пераймаць і тварыць сваю інтэлектуальную і эстэтычную вартасьць. У Ктэсіфоне, у Эдэссе, у Нісібісе і Аляксандрыі арабы з падзівам аглядалі тое, што бачылі, а пасьля пачалі пераймаць — архітэктуру, рамесьніцтва, мастацтва апрацаваньня золата, вытворчасьць рознае прадукцыі. І ўва ўсе гэтыя цэнтры антычнае культуры яны ўвайшлі і сталіся пераможнымі. (б. 174). Яны сабою прадстаўляюць нам іншы прыклад, у якім пераможнік стаўся пераможаны тым, каго падпарадкаваў сабе: сілаю культуры пераможанага.

Затым тое, штó мы называем "арабскаю цывілізацыяю", было ані арабскаю ў сваей арыгінальнасьці і ў фундамэнтальнай структуры, ані ў прынцыповым этнічным аспэкце. (Там-жа).

Тым ня меней, кажная рэч, перанятая з антычнае культуры, стаецца ўласнасьцю культуры, якую рэпрэзантуе пераймальнік.

Арабы з пустыні, займаючы тэрыторыі, ня прынесьлі

з сабою ані традыцыі навукі, ані культурнае спадчыны. У Сырыі, у Эгіпце, у аль-Іраку, у Пэрсыі, яны, як вучні, садзіліся ля ног людзей, якіх яны падпарадкавалі сабе. І яны давялі, што былі добрымі слухачамі і студэнтамі". (Бач. 240).

Эдвард Гіббон, ангельскі гісторык і філёзаф васемнаццатага стагодзьдзя, калісьці, займаючыся арабскім пытаньнем, пісаў:

...я **ведаю,** што клясыка мае шматлікае навучыць, і я **пераканаваны,** што арабы маюць многае пазнаць: паўстрыманую гордасьць стылю, ґрацыёзную прапорцыю ў мастацтве, хвормы спасьцярожнае і інтэлектуальнае прыгожасьці; апраўданае выражэньне характару і пачуцьцёвасьці, рэторыку апавяданьня і аргумэнту, рэгулярную пабудову эпічнае і драматычнае паэзыі. Уплыў праўды і розуму ёсьць меней двузначны ў выражэньні. Філёзафы Атэнаў і Рыму цешыліся добраслаўленьнем і баранілі правы грамадзкае і рэлігійнае свабоды. Іхныя творы маральнага і палітычнага характару маглі мала-па-малу разьбіць путы ўсходняга дэспатызму, выклікаць свабодны дух досьледу і талеранцыі, і заахвоціць арабскіх мудрацоў запытаць самых сябе, ці ня ёсьць часамі іхны каліф тыранам, а іхны прарок ашуканцам. [72]) Інстынкт забабону напалоханы ўжо самымі ўводзінамі нават абстрактных навукаў, а болей фанатычныя дактары права асуджалі хуткую і шкодную зацікаўленасьць аль Мамуна... І меч сарацэна стаўся меней страшным, калі арабская моладзь з ваенных абозаў паваліла ў унівэрсытэты, калі масы вернікаў адважыліся заняцца чытаньнем і думаньнем.

На працягу трох кварталаў стагодзьдзя, пасьля завяршэньня стабілізацыі Багдаду, арабска-чытаючы сьвет пераняў ужо на сваю ўласнасьць найгалаўнейшыя філязафічныя працы Арыстотэлеса, чаловых нэо-плятаністых камэнтатараў і большую частку мэдычных працаў Ґалена. На працягу некалькіх дэкадаў арабскія навукоўцы

---

[72]) Спасярод арабскіх філёзафаў, Авэррэс быў абвінавачаны з прычыны пагарды рэлігіяў жыдоў, хрысьціянаў і магамэтанаў... Кажная з гэтых рэлігіяў згодзіцца, што ў двух выпадках з трох, ягонае грэбаваньне было апраўданым. **Edward Gibbon,** ***The Decline and Fall of The Roman Empire, ch. 52.***

сузграмадзілі матэрыялы, якія грэкі тварылі на працягу стагодзьдзяў. Успрыймаючы галоўныя характэрныя рысы... гэльленістычнае культуры... — ісьлям, і ў гэтым няма сумліву, згубіў многа са свайго першабытнага характару, які зьзяў подыхам пустыні і насіў знамя арабскага нацыяналізму, але якраз з гэтае прычыны ён заняў важнае месца ў сярэднявечнай культуры, якая злучала паўдзённую Эўропу з Блізкім Усходам. Гэтая культура, і пра гэта трэба памятаць, жывілася, дзякуючы адной адзінай крыніцы, крыніцы, якая выток свой бярэ ў Грэцыі і цяперака вяртаецца ў хворме гэльленізму. Пазьней можна бачыць, як гэтая самая крыніца была накіравана арабамі ў Эўропу наагул, і ў Гішпанію і Сацылію ў вапрычонасьці, дзе яна дапамагла паклікаць да жыцьця рэнэсанс у Эўропе.

У часе далейшага арабскага праніканьня была здабыта інтэлектуальная спадчына Грэцыі: бяз сумліву, найболей каштоўны скарб. У сувязі з гэтым, гэльленізм стаўся першарадным фактарам з усіх уплываў у арабскім жыцьці. Адэсса — галоўны цэнтр хрысьціянскіх сырыйцаў; Гаран — галоўны асяродак паганскіх сырыйцаў; Антыёхія — адна зь лічных старажытных грэцкіх калёніяў; Аляксандрыя — месца спатканьня заходняе і ўсходняе філязофіяў; і вялікая колькасьць манастыроў, у якіх ня толькі царкоўныя, але і навуковыя і філязафічныя праводзіліся досьледы, — усё гэта служыла, як цэнтры прамянюючага гэльленістычнага імпульсу. Розныя наезды ў "землі рымлянаў", пераважна пад правадырствам Гаруна, спрычыніліся да здабыцьця, сярод іншых аб'ектаў, грэцкіх манускрыптаў, пераважна ў Аморыюм і ў Анкіры (Анкара, сягоньняшняя Ангора ў Турцыі). Каліфу аль-Мамуну, сыну аль-Рашыда, у заслугу кладзецца, што ён разаслаў сваіх прадстаўнікоў гэтак далёка, як у Канстантынопаль да імпэратара Лявона, які сам быў армянінам, з просьбаю пошукаў грэцкіх пісьменьніцкіх працаў. Гаворыцца, што аль-Мансур на ягоную просьбу атрымаў ад бізантыйскага імпэратара пэўную колькасьць кнігаў, уключна з "Элемэнтамі" Эўклідэса. Але арабы ня ведалі грэцкае мовы, затым спачатку былі залежнымі ад перакладаў, выкананых іхнымі падданымі, каторыя ведалі грэцкую і арабскую мовы: паганамі, жыдамі і асабліва нэсторыянскімі хрысьціянамі, з каторых Ян

Залатавусны, перад адыходам са сьвецкага жыцьця ў манастыр, згуляў найболей важную ролю. Гэтыя сырыйскія нэсторыянцы, каторыя перш перакладалі на мову сырыйскую, а тады ўжо з сырыйскае на арабскую, — гэтым сталіся наймацнейшым зьвеньнем між гэльленізмам і ісьлямам, і ў выніку гэтага сталіся найранейшымі ўсходнімі перакладчыкамі грэцкае культуры на ўвесь сьвет наагул.

Грэцкі ўплыў дайшоў да свайго зэніту ў часох аль-Мамуна, сёмага каліфа з роду Аббасідаў. Рацыяналістычныя тэндэнцыі гэтага каліфа і ягоны ўдзел у руху, які ўтрымліваў пагляд, што рэлігійныя тэксты павінны згаджацца з судом розуму, прывяло яго да шуканьня апраўданьня для ягонае пазыцыі ў філязафічных працах грэкаў. Некаторыя непацьверджаныя крыніцы пераказваюць нам, што Арыстотэлес зьявіўся яму ў сьне і запэўніў яго, што, фактычна, няма істотнае розьніцы паміж розумам і рэлігійным правам. З мэтаю апалёгіі свайго пагляду, у 830 годзе арганізуе аль-Мамун ведамы свой ДОМ МУДРАСЬЦІ (Байт аль-Гікма), — камплекс, які складаўся з Бібліятэкі, Акадэміі і памяшчэньня для перакладчыкаў, што́ ўсё разам, са шматлікіх кутоў гледжаньня, тварыла сабою важную адукацыйную інстытуцыю ад часу заснаваньня Александрыйскага музэю ў першай палове III ст. п. н. э. Да гэтага часу спарадычныя пераклады працаў былі свабодна выконванымі хрысьціянамі, жыдамі і нядаўнымі канвэртытамі ісьляму. Пачынаючы ад аль-Мамуна і, працягваючы пад даглядам ягоных беспасярэдніх спадкаемнікаў, перакладніцкая праца цэнтралізівалася галоўна ў Акадэміі. Аббасідская эра перакладаў трывала прыблізна адно стагодзьдзе, пачынаючы з 750 году... У шматлікіх выпадках труднейшых месцаў у арыгінале, пераклад выконваўся слова ў слова, а там, дзе арабскі роўнаважнік ня мог быць знойдзеным або няведамым, грэцкае слова проста перапісвалася літара ў літару.

Гістарычна ведамым астаецца факт, што арабы гэтак далёка былі зацікаўленымі спадчынаю старажытных грэкаў і гэтак глыбака асэнсавалі значэньне грэцкае думкі, што за выкананыя для іх пераклады яны плацілі перакладчыкам золатам у памеры вагі самога манускрыпту перакладу.

У галіне астраноміі назіраем падобнае зьявішча.

Капэрнік быў дасканалым прадстаўніком слаўнае эпохі Адраджэньня, таго бунту вольнае думкі супроць скасьцянеласьці і дагматычнае няволі сярэднявечча. Вызвольны гэты рух шырокаю хваляю агарнуў гэтаксама і Польшчу, у якой дзейнічалі ў тым часе мужы гэтакіх памераў, як Рэй, Каха户Оўскі, Фрыч-Маджэўскі, Астрарог — сярод іх аднак-жа найбольшы зь вялікіх — Мікалай Капэрнік. Вяртаючыся да клясычных наўзораў, да тых прыгожых здабычаў антычнае думкі, Адраджэньне ўнесла ў іх новага духа, закладваючы гэтым новыя падваліны сучаснае навукі. Капэрнік гэтаксама распачаў ад клясычных наўзораў. [8])

Астраномія тагачасная знаходзілася суцэльна ў антычных паглядах на сьвет, што пачатак свой бралі галоўна з грэцкае думкі, якая дзякуючы арабам, прабілася ў сярэднявечную Эўропу. [9])

Але вярнемся яшчэ раз да рэнэсансу і глянем, як асягненьні арабаў на полі культуры вяжуцца з адраджэньнем на Захадзе.

Калі мы гаворым "Сярэднія вякі", у нашым уяўленьні зараз-жа выступае паняцьце панурасьці, заняпаду асьветы, цемры. Згэтуль выплываюць новыя абазначэньні: сярэднявечча, век заняпаду, век цемры.

Сярэднявечча — гэта пэрыяд заходня-эўрапэйскае гісторыі, які наступае за клясычнаю антычнасьцю і трывае да г. зв. мадэрнага часу. Дакладна абазначыць пачатак і канец сярэдніх вякоў немагчыма, хоць-бы з тае прычыны, што няма шака выразных кантураў, калі пачынаецца адно і калі яно даходзіць да свайго канца, з аднаго боку; з другога — навукоўцы, якія гэтым займаюцца, гэтаксама зьяўляюцца людзьмі, якія маюць свае пагляды, сваю інтэрпрэтацыю і, што найгоршае — свае тэндэнцыі. Аднак, дзеля ясьнейшага зразуменьня пра які час ідзе

---

[8]) **Sesja Kopernikowska Polskiej Akademii Nauk, 15-16. IX, 1953. Państwowe Wydawnictwo Naukowe, Warszawa, 1955, str. 13.**

З Прамовы Праф. Яна Дэмбоўскага на адкрыцьцё Капэрнікаўскае Сэсыі, ладжанае Польскаю Акадэміяю Навукаў ў Варшаве ў днях 15-16 верасьня 1953 г. з нагоды першага Нюрнбэрскага выданьня працы Капэрніка п. т. ***De revolutionibus orbium coelestium,*** якая выйшла з пад прэсу ў 1543 г.

[9]) Язэп Віткоўскі, Праф. Пазнанскага Унівэрсытэту, там-жа, б. 41.

гутарка, часта падаецца год 476, як пачатак, і год 1492 — заканчэньне гэтага пэрыяду. (The Columbia Encyclopedia, 1944, p. 1168). Згэтуль, сярэднявечча трывала, агульна кажучы, адно тысячалецьце. Гэта не малы адрэзак часу! Менш-больш на гэтую апошнюю дату прыпадаюць тры характэрныя гістарычныя зьявы: рэнэсанс, рэфармацыя і вынахад друку. Куды і як далёка гэаграфічна распасьціраўся ўплыў сярэднявечча? Ён агортваў сабою ўвесь хрысьціянскі сьвет: ад Атлянтычнага акіяну на Захадзе, і да ракі Эўфрату на Ўсходзе, ад Паўночнага або Балтыцкага мора на поўначы, уключна з абшарамі Вялікага Княства Літоўскага (у залежнасьці ад часу і дэфініцыі гістарычнае Літвы), і да паўночных межаў пустыні Сахары на поўдні.

На ўсім гэтым абшары (зь нязначнымі вынияткамі) у культурным сьвеце панавала лацінская мова.

Агульна прынята разумець, што ў часе сярэднявечча тры фактары найважнейшых уплываў крыжаваліся між сабою: рымскі, хрысьціянскі і нямецкі. Рымская культура ў значнай меры ўспрыняла мастацтва, літаратуру, філязофію і навукі грэцкае антычнасьці. Са свайго боку, рымляне ўнесьлі і разьвілі сваеасаблівы змысл адміністрацыі і праўнае структуры. Хрысьціянская царква ўзбагаціла рымскую цывілізацыю новымі рэлігійнымі і этычнымі канцэпцыямі, даючы людзям новыя маральныя магчымасьці. Аднак, у тым самым часе, яна падняла да памераў мужнасьці аскэтызм і супроцьставілася да ўсяго, што насіла знамя сьвецкасьці г. зн. паганскае культуры. Шматлікая клясычная літаратура была забаронена царквою з прычыны яе сувязі з паганскімі рэлігіямі. Гэтакім чынам царква затармазіла вялікую частку тае клясычнае спадчыны, якою, у іншым выпадку, сярэднія вякі, маглі-б карыстацца дзеля свае памыснасьці. З другога боку, успрыймаючы вельмі скуткоўную рымскую адміністрацыйную сыстэму, царква сталася найболей сільнаю, сцэнтралізаванаю ўладаю. Гэрманскія барбары, са свайго боку, унесьлі пазытыўны ўклад у хворме ідэяў асабістае свабоды і паняцьцяў індывідуальнасьці. (Функ і Ваґнальльс, 1965, 16). Паступова зьначваецца склад насельніцтва з прычыны наплыву гэрманскага элемэнту ў пятым і шостым стагодзьдзях. Гэрманскія плямёны, якія з пачаткам наступнага стагодзьдзя зьліваюцца з

тубыльцамі, а на пераломе 8-га ст. два элемэнты твораць сабою аднародную супольнасьць. (Там-жа).

У часе гэтага пэрыяду царква наварочвала і падпарадкоўвала сабе новыя народы. Хрысьціянскія манахі адыгрывалі пры гэтым важную культурна-палітычную ролю, зьвязваючы барбарскія нацыі з Рымам. Пад панаваньнем Шарлямана каралеўства Франкаў асягнула стан імпэрыі. Са свайго скарбу ахвяроўвае ён царкве аграмадныя багацьці, а царкоўныя ўладыкі займаюць высокія становішчы ў урадзе. Як узнаньне заслугаў Шарлямана, папа Лявон III ў часе Калядных сьвятаў 800 году каранує яго на імпэратара рымлянаў [10]) і гэтым закладае падваліны таго, што з часам стаецца ведамым, як Сьвятая Рымская Імпэрыя. Мэтаю Лявона было займець як найбольшыя ўплывы ў справах палітычных заходняе Эўропы.

Меншыя краіны Шарляман далучае да імпэрыі, пакідаючы на месцы лякальных кіраўнікоў, заданьнем каторых будзе бараніць краіну перад нападамі звонку і даглядаць парадак у нутры, падтрымліваючы гэтым фэўдалізм.

Пачынаючы з гэтага часу і аж да канца XIII стагодзьдзя, Рымская Каталіцкая Царква стаецца найбольшым фактарам у гісторыі сярэднявечча; яе аўтарытэт і ўлада, уплыў і багацьці стала ўзрастаюць, а яе дастойнікі стаюцца найболей выдатнымі ўва ўсіх галінах дзейнасьці. З надыходам IX стагодзьдзя гэрманскі кароль Отто Вялікі ўпарадкаваў імпэрыю Шарлямана, і на працягу трох стагодзьдзяў пасьля гэтага сьвяты рымскі імпэратар быў вядучаю сілаю ў заходняй Эўропе. [11]). У міжчасе нарманы заваявалі Англію, паўдзённую Італію і Сыцылію. Сільныя манархіі ўстабілізаваліся ў Англіі, Францыі і Гішпаніі.

*

На пачатку 8-га ст. хрысьціянства адважылася выступіць супраць сарацэнаў (арабаў-бэдуінаў, гр. саракéнос) на Ібэрыйскім паўвостраве і ў паўночнай Афрыцы. З набліжэньнем 11-га ст., краіны заходняе Эўропы падняли ініцыятыву заатакаваньня магамэтанаў на Ўсходзе ў хворме некалькі ваенных экспэдыцыяў, якія ўвайшлі

---

[10]) **Edward Gibbon,** ***The Decline and Fall of the Roman Empire, ch. 49.***

[11]) Там-жа.

ў гісторыю пад назовам Крыжовых паходаў. І тут наступае тое, на што хацелася-б асабліва зьвярнуць нашую ўвагу. Сутык удзельнікаў крыжовых паходаў з багатаю і пышнаю культураю Блізкага Ўсходу знамянуе ўвядзеньне шматлікіх новых і ажыўляючых ідэяў на Захад, пашыраючы тут інтэлектуальны гарызонт, і закладваючы гэтым аснову да вялікага навуковага адраджэньня, ведамага, як Рэнэсанс.

З паняцьцем рэнэсансу гэтае пары цесна вяжуцца паняцьці гуманізму і рэфармацыі.

Сыны літоўскага народу, якія мелі магчымасьць у тым часе студыяваць на Захадзе, вярталіся дамоў заплодненымі ўсімі тымі ідэямі, якія ў тым часе дыскутаваліся на школьных лавах, як і прыватна. Ідэі гэтыя, якія знаходзім у працах іхных, зьмяшчаліся ў тэрмінах: рэнэсанс, рэфармацыя, свабода... Найболей ведамымі ў нас прадстаўнікамі гэтае плыні зьяўляюцца, Др. Францішак Скарына, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, каб ня вылічваць іх усіх. Тых з нас, каторыя хацелі-б ведаць болей з гэтага, адсылаю да Беларускае энцыкляпэдыі, дзе адносна многа, хоць аднастаронна, гаворыцца пра гэта.

Клясыка? Клясыка — што?

Зрэасумаваньне зьместу гэтага рэфэрату зводзіцца да таго, штó калісьці казаў Сакратас: Я ведаю, што ня ведаю. Тут ляжыць выходны пункт пачатку ў адукацыйным прагрэсе для чалавека. Арабы вельмі выразна задэманстравалі гэты пункт гледжаньня.

Магчыма не адзін з нас памятае тое пачуцьцё самаздаволеньня і неапраўданага аптымізму, калі атрымліваў пасьведчаньне аб заканчэньні тае ці іншае школы. Тады здавалася, што чалавек ня толькі ведае прадмет навучáны ў школе, але, наагул, ведае ўсё. І гэта кардынальная памылка, тым грозная, што яна хіліць чалавека да духовага сну тады, калі чалавек найменей спадзяецца гэтага. Нашыя прадзеды, укалыханыя ілюзыяю, што ўсё ў краю ідзе добра і памысна, хутка апынуліся са сьлязамі на каленях перад прыпадкавым і чужым каралём, аддаючы ў рукі апошняга сваю долю і прышласьць свае бацькаўшчыны.

Якколечы нашая дзейнасьць можа быць уважанаю за добрую, існуе заўсёды магчымасьць учыніць яе яшчэ лепшаю. Ня можна і ня трэба здавальняцца асягнутым.

У беластоцкай “Ніве”, з дня 23 студзеня 1979 г. знаходзім інтэрв’ю рэдакцыі з гр. Е. Зэґальскім, дырэктарам і рэжысёрам у тэатральным мастацтве. З цэлага раду адказаў на пытаньні ўзьнікла ўяўленьне чытача аб выдатных асягненьнях дырэктара. Аднак найболей характэрным і філязафічным быў ягоны адказ на апошняе пытаньне:

— Скажэце, калі ласка, калі вы маеце поўнае асабістае задаваленьне?

І Зэґальскі адказаў:

— Ніколі і ні ў чым. Лічу, што заўсёды і ўсё можна зрабіць яшчэ лепш, чым яно было зроблена.

27 чырвеня, 1979 г.
Гэйнсвільл, Флярыда, ЗША.